ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

№ 2 (люты) 2015

У нумары:





Малюнак Пятра КОЗІЧА.



**N.B.**
**«Нота бенэ»**
**Звярні ўвагу!**




Малюнак Міколы ПІРГЕЛЯ.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Андрэя СІДАРЭЙКІ.




Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА.




Малюнак Аляксандра ЦІХАНАВА.







Малюнкі Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Андрэя СЛУЦКАГА.

## Думкі ўголас

Дарма чакае варона арлінага трона.

Будзь шчодры, але не на абяцанні.

Шлях прамы, аб'езд крывы, а ехаць трэба.

У цемры і светлячок – ліхтар.

Паабяцаў ястраб квактусе куранят не чапаць.

Малы вадаспад, ды крыклівы.

Ты яшчэ не страляў, а куля ўжо ў палёце.

Да недаступнага дакраніся вачамі, але не бяры ў душу.

І студня высахла, і вядро рассохлася.

Не спяшайся павучаць, спяшайся вучыцца.

Хацеў сваркі Язычок, ды ўтрымаў яго Маўчок.

Карані чарнеюць – крона квітнее.

Двое крычаць, а трэці глохне.

**Барыс БЕЛЕЖЭНКА,**
*г. Віцебск.*

**Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ**

### Кар'ерны ўзлёт

Ляшчу лянота выйшла бокам,
Бо шэф яго быў строгі Сом.
Паслаў Ляшча ён так далёка,
Што той адразу стаў паслом.



**Мікалай ГЛЕБ**

### Галоўнае – кадры

Спакойна Зайцу
На рабоце спіцца,
Бо сакратарка
У яго... Тыгрыца.






### З пункту погляду...

Змяя, як вінаградзіна,
А вуж – такая гадзіна!

*г. Мінск.*



### Парада

Аслу параіла вучыца
Дыпламаваная Ваўчыца.
Сярод звяроў цяпер ён
вельмі знаны:
Хоць і Асёл, але – адукаваны.

*Ляхавіцкі раён,*
*в. Падлессе.*

---

**Міхась МІРАНОВІЧ**

## Міранізмы

### Ногі і рукі

Такое ўласціва
З нас многім і многім,
Такія спрадвеку мы ўсе,
Мужыкі:
Як толькі ў жанчыны
Прыгожыя ногі –
Дык мы ў яе зараз жа
Просім рукі.

### Спадніца і дзявоцтва




Дзяўчаты, з гэтым
Нельга не згадзіцца,
Таму цвяроза
Глянем праўдзе ў вочы:
Чым у дзяўчыны
Карацейшая спадніца –
Тым карацейшы
Век яе дзявочы.

### Жаночая размова

– Даведалася я,
Што ты, нябога,
За мужа выйшла
За майго былога.
– Так, сёння выйсці замуж
Цяжка дужа,
Каб не натрапіць на твайго
Якогась мужа!..



Малюнак Аляксандра ШМІДТА.




Выхадны зімовы дзень. Звычайная дзіцячая пляцоўка каля шматпавярховага дома. Вакол ляжыць бялюткі мяккі снег. Па двары гойсаюць дзеці. Хто катаецца на лыжах, хто — на санках, хто лепіць снегавіка. Побач прагульваюцца маладыя матулі з каляскамі, мужчыны чысцяць машыны...

Сярод гэтага натоўпу выдзяляюцца тры хлапчукі гадоў па восем–дзесяць. Яны занятыя будаўніцтвам снежнай крэпасці. Працуюць зладжана, як сапраўдныя сябры.

— Слухайце, хлопцы, а наколькі высокай будзем яе рабіць? Можа, яшчэ і акенцы пракалупаем? — спытаў Ягорка.

— Давайце велізарную, каб усе нам зайздросцілі, а малыя ўвогуле баяліся падысці, — прапанаваў Яўген.

— Хопіць балбатаць! Будуем, пакуль дамоў не паклічуць! — супыніў іх Паша.

— Нават памарыць не дасць, — засмяяўся Ягорка і шпульнуў у сябра снежкай.

Паша строс снег з паліто і незадаволена прамовіў:

— Хлопцу ўжо дзевяць гадоў споўнілася, а паводзіць сябе, як дзіцё малое.

— А ты — быццам дзядок стары, — прамармытаў пад нос Ягорка.

— Ведаеце, у наш час дзеці сталеюць рана. Мой малодшы брат тэлефон навучыўся разблакіроўваць раней, чым хадзіць. Таму я ў свае дзесяць гадоў павінен паводзіць сябе, як дарослы, — разважліва паведаміў Паша.

— Ага, як жа! Станеш ты дарослым у дзесяць гадоў... Мне нядаўна старэйшая сястра дала пачытаць артыкул пра тое, што ў хуткім часе з'явіцца новы закон па абароне дзяцей ад інфармацыі, якая наносіць шкоду іх здароўю і развіццю, — расказаў Ягорка.

Яўген жвава адгукнуўся:

— Я таксама чуў пра гэта ад бацькоў! Такі закон ёсць у Расіі. Цяпер жа і ў нас будуць пазначаць узрост, з якога дазваляецца глядзець тэлеперадачы і кіно, чытаць газеты і часопісы, гуляць у камп'ютарныя забаўкі і іншае.

— А навошта ўсё гэта, не разумею? — здзівіўся Паша.

— Вось чалавек! Вядома ж, для карысці. Каб у тваёй галаве не ўзнікала нават думкі пра тое, што можна каштаваць цыгарэты, алкаголь, наркотыкі, глядзець «фільмы для дарослых», лаяцца, крыўдзіць блізкіх, парушаць закон, — спакойна патлумачыў Ягорка.

— Напрыклад, ты чытаў «Прыгоды Тома Соера» Марка Твэна? — спытаў Яўген у Пашы.

— Зразумела, чытаў! Кім ты мяне лічыш? — засмучаўся той.

— Не кіпяціся, я гэта так, дзеля прыколу. Дык вось, гэтая кніга рызыкуе трапіць пад узроставыя абмежаванні, — сказаў Яўген.

Ягорка абурыўся:

— Як? Чаму? Такога не можа быць!

— Можа. У ёй ёсць элементы гвалту, часта можна прачытаць пра гарэлку, курэнне... Фін нават заклікае да таго, каб дзеці бадзяжнічалі, — зазначыў Яўген.

— Вось пра што я не думаў, калі чытаў аповесць, дык пра тое, каб пайсці з сям'і і валацужнічаць. Мне здаецца, кніга вельмі добрая, смешная, павучальная. Дзіўныя гэтыя дарослыя... — не пагадзіўся Паша.

— А што будзе, калі я ўжо прачытаў гэтую кнігу ці ўпотай ад усіх яе адкрыю? — спытаў у сяброў Ягорка.

— Будзеш парушальнікам закона! — усміхнуліся яны.

---




**Калі жонка села на модную дыету, гэта будзе дорага каштаваць яе мужу.**

Не ўсе жанчыны ведаюць, што для міні-спадніцы патрэбны максі-ногі.

Кропкіну ў жыцці пастаянна шчасціць. У яго ўжо пятая жонка — і ён кожны раз удала жэніцца.

**У палоне кахання хочацца заставацца як мага даўжэй.**

Шлюбы заключаюцца на нябёсах, для разводу хапае і зямнога суда.

**Даслаў**
**Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*




Малюнак Пятра КОЗІЧА.

– Калі прымуць такі закон, тады прачытаеш і будзеш ведаць, – дадаў ужо больш сур'ёзна Яўген.

– Раз так, то я таксама падзялюся навіной, якую пачуў ад старэйшага брата, – важна сказаў Паша. – Міністэрства аховы здароўя і Міністэрства адукацыі ўжо ў гэтым годзе плануюць праводзіць псіхалагічнае анкетаванне і медыцынскі агляд сярод школьнікаў, навучэнцаў і студэнтаў, каб выявіць, хто з іх прымаў, прымае ці мае схільнасць да прыняцця алкаголю, наркотыкаў і іншых шкодных рэчываў.

– Не ведаю, як вы, а я толькі за. Лепш хай раней выявяць моладзь, якая можа ўжываць або ўжывае гэтае паскудства, ды паўплываюць на яе, – нібыта дарослы, выказаўся Ягорка.

– Я таксама згодны з табой. Бо, калі па-сур'ёзнаму, вельмі баюся такіх хлопцаў і дзяўчат. Сутыкаўся некалькі разоў з імі ў пад'ездзе, дык страху нацярпеўся!.. – падтрымаў сябра Яўген.

– А як жа свабода самавыяўлення і самавыхавання? Вам не падаецца, што нас, дзяцей, дарослыя вельмі пільна кантралююць? – задуменна запытаў Паша.

– Цяжка адказаць на гэтае пытанне... Усё ж бацькі больш за нас ведаюць, лепш разумеюць свет. Хай яны і вырашаюць, што для нас карыснае, а што – не, – падумаў і адказаў Ягорка.

– Галоўнае, каб не перамудрагелілі, – усміхнуўся Яўген.

– Эх, рукі зусім замёрзлі. Хлопцы, а давайце заўтра дабудуем крэпасць, – прапанаваў Паша.

– Давайце! Пайду перачытаю «Тома Соера», пакуль не забаранілі, – засмяяўся Ягорка.

– А я – «Муму». Усё, да заўтра, – падтрымаў прапанову Яўген і пабег дадому.

За ім зніклі і яго сябры.

Дзіцячая пляцоўка паступова пачала пусцець... А дарослыя тым часам думалі, як засцерагчы дзяцей ад негатыўнай інфармацыі і не перамудрагеліць з законам.

**Дзіцячую размову падслухала Наталля КУЛЬГАВАЯ.**



Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.




Малюнак Руслана БОГУША.



**Віктар КУНЦЭВІЧ**

## Аглобля і хамут

Напэўна, дурань я,
Што ажаніўся з Таняй.
Хто ж корміць салаўя
Прыпеўкай пра каханне?
Пачуцці на ланцуг
Паволі прывязалі,
Ды так, што не адчуў,
Як волю маю ўкралі.
Сівею ад праблем,
Ужо не чарнавусы.
І даастатку з'еў
Той яблычак спакусы.
Калі я жыў адзін –
Было прывольна-ўсцешна...
– Раз дзетак напладзіў –
Гадуй! – злуецца цешча.
Я ж і яе кармлю,
І абібока-цесця.
Як пляшка ёсць – налью,
Губа ў яго не трэсне!
«Не знаў такіх пакут», –
Я думаю шторанне.
Аглобля і хамут –
Усё маё каханне.

*г. Магілёў.*






Любы рэаліст скажа, што цудаў не бывае. А ўсе, хто ў іх верыць, — летуценнікі і фантазёры. Зразумела, лічыць, што, напрыклад, даўным-даўно на свеце існавалі аднарогі, ніхто не забараняе. Але паўсюль крычаць пра гэта ўсё ж не варта.

Веру чалавецтва ў цуды ашуканцы выкарыстоўваюць у сваіх махінацыях здаўна. У наш час на розных выставах, у электронных і друкаваных СМІ актыўна рэкламуюцца шматлікія «цудадзейныя сродкі» — прадукты харчавання і касметыка. Чаго толькі не напрыдумляюць вытворцы такіх «дзіваў», каб тавары карысталіся папулярнасцю і звычайны чалавек хутчэй бег іх набываць! Наабяцаюць, што лысы атрымае шыкоўную шавялюру, таўстуха — скіне вагу за тыдзень і стане саракакілаграмовай прыгажуняй, а гаючы эліксір дасць здароўе і даўгалецце... І тым самым парушаць заканадаўства, згодна з якім рэклама не павінна змяшчаць указанне на лячэбныя ўласцівасці аб'екта рэкламавання, калі ён не валодае імі.



Малюнак Пятра КОЗІЧА.

Таму Міністэрства гандлю пільна кантралюе рэкламу такіх «цудадзейных сродкаў». Напрыклад, у 2014 годзе за неналежную рэкламу харчовага прадукту «Ламинарин» было пакарана ААТ «Собрат», бальзаму «100 даров» — ПГУП «АпифитоБел», бальзаму «Алтайский целитель», комплексаў «Каменное масло +7», «Сибирская лиственница +7», крэму «Добродея живичный +7» — ААТ «Алтайский знахарь», за інтэрнэт-рэкламу касметычнай прадукцыі Vivasan — ІП Нагорнава А. В. і іншыя.

Паколькі ўсе яны не змаглі пацвердзіць, што іх прадукты з'яўляюцца сапраўды лячэбнымі, правапарушальнікам давялося выплаціць штрафы ў памеры ад 900 тысяч да 9 мільёнаў рублёў.

Вось і атрымліваецца, што верыць у цуды варта, але плаціць за іх можна толькі ў тым выпадку, калі вы прыйшлі на прадстаўленне фокусніка.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**

*Па інфармацыі прэс-службы Міністэрства гандлю.*

---

**Андрэй СІДАРЭЙКА**

# Нататкі халасцяка

## іранеска

*Жанчына пазнаёміцца з мужчынам для стварэння сям'і.*
*(З аб'явы).*

*Мне абрыдла весяліца,*
*Мне абрыдла ціць-курыць,*
*І таму рашыў жаніцца,*
*Бо хачу сям'ю стварыць.*
*(З песні).*

Раней казалі, што аджаніцца і ў гультая спрыту хопіць. У наш час, калі знаёміцца з супрацьлеглым полам стала модна з дапамогай інтэрнэту і СМІ, знайсці сабе жонку ўвогуле проста. Вось і я вырашыў адшукаць каханую сучасным метадам.

Спачатку ўзяўся праглядаць аб'явы ў газетах і часопісах. У адным выданні прачытаў: «Дзяўчына шукае кампаньёна для сумесных паходаў у кіно і прагулак». Чым не варыянт? Пра сур'ёзныя адносіны ні слова, а прагуляцца — справа няцяжкая. Набраў пазначаны нумар, дамовіўся пра сустрэчу.

Па дарозе ў кінатэатр новая знаёмая заўважыла:

— Мужчыны звычайна прыходзяць на спатканне з ружамі.

— Якія ружы? — пытаюся. — У аб'яве пра гэта нічога не было.

— А яшчэ перад кіно заходзяць са спадарожніцамі ў кафэ ці рэ-



Малюнак Алега ГУЦОЛА.

# БРАК сярод ваяк

На пенсіі мужчынам – рай:
Сядзі сабе, адпачывай.
Ды без работы сумна жыць...
– У арміі хачу служыць! –
Ідэю выдаў дзед Нупрэй.
Тут падтрымаў яго Андрэй:
– Адправімся ў ваенкамат
Мы заўтра раніцою з хат.
...Наступным днём, ужо пад вечар,
Прыйшоў Нупрэй і сеў ля печы.
На жонку вочы не ўздымае –
Відаць, што нешта дакучае.
– Стаміўся, бачу я, нябога,
Няблізкая была дарога.
І што сказаў, цікава, вам
На развітанне ваенкам?
– Паціснуў рукі ён па-брацку
І нораў пахваліў ваяцкі.
Маўляў, вы смелыя мужчыны,
Ды... нам не трэба дзедаўшчыны.

**Яўген ЖАМОЙДЗІН,**
*Мінскі раён,*
*г. п. Мачулішчы.*

---

старан, – працягвае, нібы не чуе мяне.

Я не вытрымаў:

– А жанчыны ў такіх выпадках грошай на аб'явы не шкадуюць. Свае пажаданні адразу на паперы выказваюць!..

У выніку паход у кіно не задаўся.

На старонках іншага выдання знайшоў аб'яву: «Зеленавокая прыгажуня з фігурай 90-60-90 жадае пазнаёміцца з багатым мужчынам». Чаму б і не? Мера матэрыяльных каштоўнасцей у кожнага свая. А мой унутраны свет – увогуле не раскрытая скарбніца. Таму не раздумваючы тэлефаную і дамаўляюся пра спатканне.

Пры сустрэчы доўга гляджу ёй у вочы. Здаецца, сапраўды зялёныя. Потым дастаю з кішэні складны метр і пачынаю абмяраць яе стан.

– Як вам не сорамна! – крычыць дзяўчына.

– Выбачайце, вопыт вымушае. Жадаю ведаць дакладна, ці варта купляць ружы і ісці ў кафэ.

І сапраўды, падвох: замест пазначаных 90-60-90 атрымаліся ўсе 120-90-120.

– Мне вашы параметры таксама падабаюцца, – кажу ёй, – але ў аб'яве іншае было напісана...

Трэцяга спаткання зусім не адбылося, бо дзяўчына адразу сказала: «Згодная на ўсё. Хоць зараз пад вянец. Але спачатку – самы модны рэстаран, потым – Мальдзівы...»

– Выбачайце, памыліўся нумарам, – хутка пралапатаў я і адключыў тэлефон.

Пасля гэтага сам размясціў у газеце аб'яву: «Забяспечаны бізнесмен шукае сімпатычную дзяўчыну для сур'ёзных адносін». Вядома, наконт бізнесмена я зманіў, але чаго не зробіш дзеля таго, каб ажаніцца.

Пісьмы на электронную пошту пачалі прыходзіць адно за адным.

# Модныя замалёўкі

*Мода – гэта калі ўсім падабаецца тое, пра што вядома, што яно ўсім падабаецца.*

Невядомы аўтар




Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.

Першае з іх гучала так: «Выйсці замуж за бізнесмена – мая мара». Думаю: «Ага, падстаўляй кішэнь!» Таму адказваю: «Прабачце, калі ласка, але памарце пра каго-небудзь іншага».

Другое было наступнага зместу: «Я звычайная сімпатычная дзяўчына, якая не мае грошай. Канечне, хочацца выйсці замуж па каханні. Але ад забяспечанага мужа не адмовілася б». Даю адказ: «Варта заўсёды верыць у цуды».

Трэцяе аказалася кароткім: «Не жадаеце быць маім забяспечаным зайчыкам?» Адказваю: «Згодны быць толькі львом. А капусту шукайце ў іншым месцы».

Пасля прагляду электроннай пошты зазірнуў у сацыяльныя сеткі. На адной старонцы дзяўчына напісала так: «Жадаю мець побач моцнае мужчынскае плячо, у якога будзе дастаткова грошай на нашу будучую кватэру». На другой значылася: «Жадаю мець сапраўднага мужчыну, у якога ўсё ёсць». На трэцяй адразу папярэджвалі: «Хлопцам з перыферыі не адказваю».

Так у мае «сеткі» ніхто і не трапіў. Але вопыт з'явіўся.

На гэтым я вырашыў прыпыніць пошукі будучай жонкі. Мне ж толькі сорак гадоў, пачакаю яшчэ. Можа, якія іншыя – больш новыя метады пошуку з'явяцца?..

*Рэчыцкі раён, в. Каравацічы.*









## Расціслаў БЕНЗЯРУК

### «Ой» і «Шы»

*На дамах павіслі ледзяшы –*
*Шы!*
*..........*
*Ледзяшы расплачуцца,*
*Паплывуць вадой –*
*Ой!*

*Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ*

Стрэча гэтая была,
Помню, ранняю вясной.
Ой!
Я каханка завяла
І паклікала з сабой.
Ой!



Зашумелі ледзяшы:
«Шуры-муры ў шалашы!
Шы!
Яшчэ ўсюды снег ляжыць...
Можа, лепей не грашы?
Шы!»

Адказала ім тады:
«Век не быць мне маладой!
Ой!
Праляцяць, збягуць гады,
І жыццё сплыве з вадой...
Ой!»

*г. Жабінка.*

## Аляксандр БЫКАЎ

### Грэх



*Ацініце легкаважны смех,*
*Астылы, зразумееш чыста:*
*Юнацтва – несвядомы грэх,*
*Далей – наўмыснае злачынства.*

*Ігар КАНАНОВІЧ*

Як крытыкаў заціхне брэх,
Астылы, зразумею чыста:
Пісаць з дзяцінства – шчэ не грэх,
А вось далей – ужо злачынства!

*г. Мядзел.*

## Анатоль ЗЭКАЎ

### Іду-брыду

*Брыду, як лось, праз лес густы,*
*Па пояс грузну я ў сумётах*
*І з нейкай тайнаю самотай*
*Тапчу альховыя кусты.*

*Кастусь ІЛЬЮШЧЫЦ*

Нібыта лось, брыду праз лес,
Праз зараснік густы ламлюся
І думаю: куды я ўлез?
Мне б павярнуць назад, ды, мусіць,
Такі характар мой круты,
Што не змяніць яго ў аснове.
Тапчу альховыя кусты,
Ілбом дубы лічу ў дуброве.
Іду-брыду, не якачу,
Назад тады хіба вярнуся,
Калі кустыператапчу
І навакол дубы злічу ўсе.

## Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ

### Пра муху

(Не балада)

*Праз расчынены балкон заляцела муха,*
*думаючы, што нікога дома няма...*
*.......*
*Забіў муху. Першая ў гэтым годзе.*

*Віктар ШНІП*

Тады, калі паэт быў дома,
Чаго ўляцела? Невядома.
Забыла долю павука:
У Шніпа цяжкая рука.




Аб'ява ў краме:

«Суперпрапанова! Валянцінкі з надпісам «Маёй каханай і адзінай» – усяго 20 тысяч за чатыры штукі!»

* * *

Супрацоўнік звяртаецца да загадчыка аддзела:

– Іван Іванавіч, дазвольце мне заўтра не прыйсці на працу. Жонка просіць, каб дапамог ёй управіцца ў пральні, затым адрамантаваць плот на дачным участку...

– На жаль, паважаны калега, не: гэта не прычына, каб адсутнічаць на службе.

– Шчыра дзякую вам, Іван Іванавіч, – узрадаваўся той. – Я так і ведаў, што вы будзеце на маім баку.

* * *

Злавіў дзед залатую рыбку і просіць:

– Зрабі так, каб кожны дзень было 23 лютага.

– Спазніўся, стары. Твая бабка пажадала, каб кожны дзень было 8 Сакавіка!




Малюнак Алега ПАПОВА.

## Эпіграмы

Лаўровы мроіўся даўно яму вянок,
Ды толькі адшчыпнуў з яго лісток.

* * *

Памёр нябога на сваім вяселлі –
Да чорцікаў любіў хмяльное зелле.

* * *

Збіралі з жонкай скарб усё жыццё,
Сыны ж яго збылі за пару дзён.

* * *

Быў неблагім ён сябруком,
Пакуль не стаў кіраўніком.

* * *

Не вытрымаць ад жонкі здзекаў:
На людзях – рай, а дома – пекла.

* * *

Выхоўваць бацька ўзяўся сына,
Ды цяжка дурасць выбіць клінам.

* * *

Душу гатоў прадаць за грошы,
Бо жыць прывык ён у раскошы.

* * *

Пра Віцю з Колем ходзіць слых,
Што маюць розум на дваіх.

**Лявон АНЦІПЕНКА,**
*г. Шклоў.*

**Міхась СЛІВА**

## Скарга

«Паважаны галоўны рэдактар!

Узяцца за пяро мяне прымусіла работа Вашага мастака Уладзіміра Кастрова. У апошнім нумары Вашай газеты змешчаны два яго шаржы – на мяне і яшчэ аднаго паэта. Звярніце ўвагу: майго калегу мастак намаляваў паўнатварым, вясёлым, з ямачкамі на шчоках, можна сказаць, квітнеючым. Мяне ж зрабіў вельмі худым, празмерна сумным і задумлівым, без маёй шыкоўнай шавялюры.

Лічу, што тут яўна ёсць задумка прынізіць маё значэнне ў літаратуры. Логіка разважанняў Вашага мастака зразумелая: які аўтар, такі і яго ўнёсак у развіццё паэзіі. А хіба ж гэта так, шаноўны рэдактар?! Мой калега (прозвішча яго Вы і самі ведаеце) яшчэ малады, пачынаючы паэт, можна сказаць, смаркач, а яго ўжо змясцілі ў газеце побач са мной! І аўтар пароды таксама мяне не паважае, прывёў маіх паэтычных радкоў менш, чым маладога калегі.

Лічу неабходным, паважаны галоўны рэдактар, у бліжэйшых нумарах Вашай газеты даць новы малюнак з майго партрэта, максімальна наблізіць падабенства, зрабіць з размахам, ярка, каларытна, перадаць асаблівасці майго таленту, што будзе адлюстроўваць мой уклад у сучасны літаратурны працэс.

З надзеяй – Арцём Зарэчны, паэт».

*«Жыццё на Парнасе»,*
*Мн., 2014 г.*

Арцём Зарэчны




**Часам жанчыне дастаткова мець вузкую талію, каб жыць на шырокую нагу.**

У жыцці можна прывыкнуць да ўсяго. Нават да ўласнай жонкі.

**Ад кахання рэдка вар'яцеюць, але часта губляюць галаву.**

Часта мужчыны гатовы аддаць жанчынам за іх прыгожыя ножкі сваё сэрца і руку.

**Трэба любіць сябе так, каб заставалася любові і для іншых.**

**Даслаў**
**Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*




Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.

ВЕРНІСАЖ



# Малюе Мікола ГІРГЕЛЬ














## Лёля БАГДАНОВІЧ

### ПАДВЯЛІ ПЕДАЛІ

Круціў штодня Язэп да Валі
Ужо не першы год педалі.
Ды з носам наш жаніх застаўся –
На «BMW» Пятрок прымчаўся.

### ХАЛЕСТЭРЫН ДА ГУСТУ

Сварыўся Яська на Яніну:
«У масле шмат халестэрыну!»
А сам употай і на лусту –
Халестэрын яму па густу!

*г. Барысаў.*



Малюнак Алега ПАПОВА.

### ДАГАДЗІЛА

Не той сябрук, хто мёдам мажа,
А той, хто праўду ў вочы кажа.
Шапнула Колю: «Твая Маша
Мілуецца з суседам нашым».
Вось сябру дагадзіла, называецца:
Цяпер са мной Мікола не вітаецца!..



**Алена ЛІХАДЗІЕЎСКАЯ,**
*Маладзечанскі раён,*
*пас. Краснае.*




Прывітанне,
братка Вожык!

Праблема зносінаў пешаходаў і вадзіцеляў вядомая ўсім. Але ж і сярод апошніх раз-пораз узнікаюць непаразуменні. Вадзіцелі таксама змагаюцца за сваё месца пад сонцам. І вельмі часта паводзяць сябе як сапраўдныя эгаісты, не звяртаючы ўвагі на тое, што за рулём ездзяць іншыя «калегі».

Гэта яскрава відаць на паркоўках. Нядаўна мне трэба было спыніцца на праспекце Дзяржынскага. На стаянцы я ўбачыў такую карціну *(гл. фота)*.

Таму хацелася б звярнуцца да ўладальнікаў аўтамабіляў: «Паважаныя вадзіцелі! Не паводзьце сябе так, быццам вы адны ездзіце па вуліцах нашых гарадоў. З павагай стаўцеся да іншых удзельнікаў руху. Ад гэтага ўсім будзе прасцей і лепш».

**Валянцін МІХАЙЛАЎ,**
*г. Мінск.*



Дарагі калючы сябра!

Пасля прачытання фельетона «Мама, падары мне... монстра!» («Вожык» № 1 за 2015 год) мне вельмі захацелася самой стаць мяккай цацкай і пагаварыць з мядзведзікам Пухам, сабачкам Чорным Носікам і іншымі персанажамі.

У маім дзяцінстве, якое паспела крыху захапіць XXI стагоддзе, таксама былі цацкі, якія многія людзі ўпарта не прымалі. Лічылася, што лялькі Барбі ламаюць дзіцячае ўяўленне пра жаночую прыгажосць, «Тэлепузікі» навязваюць нестандартную сексуальную арыентацыю, «Сімпсаны» выхоўваюць расізм і схільнасць да гвалту, а «Пакемоны» наогул «дэманічны» мультсерыял.

Усім вядома: цацкі робяць тыя, у каго ёсць на гэта сродкі. Таму ў продажы час ад часу ўсё роўна будуць недасканалыя, нікчэмныя дзіцячыя тавары. Грош ім цана! Дарослыя не могуць забараніць усе цацкі, якія лічаць небяспечнымі для сваіх дзяцей, але ў іх сілах аберагчы малых, растлумачыць ім, «што такое добра і што такое дрэнна».

Пагадзіцеся, што не ўсё так сумна, як падаецца. У крамах ёсць і шмат якасных цацак: канструктары, галаваломкі, мазаікі, гульні накшталт «зрабі сам», прыгожыя сервізы для дзяўчынак і машынкі для хлопчыкаў... Але тут узнікае яшчэ адно пытанне, вельмі балючае: колькі з гэтых тавараў зроблена ў Беларусі, Расіі, Украіне?.. Напэўна, і палову не будзе. Айчынныя вытворцы спяць у шапку. Часта яны не могуць прапанаваць цацкі, здольныя зацікавіць маленькага спажыўца. Час ідзе, новыя ж персанажы ў нас так і не з'яўляюцца... А ў Гены і Чабурашкі, Малыша і Карлсана, Воўка і Зайца павінны быць паслядоўнікі.

Вялікі дзякуй аўтару, што закрануў такую важную і складаную праблему. Давайце разам думаць, як яе вырашаць.

**Ганна СІНІЦА,**
*г. Барысаў.*

---

**Міхась МІРАНОВІЧ**

## Міранізмы

### Ні два, ні паўтара...

– Чаго ляжыш?! –
Так грозна
Спытала мужа
Жанна.
– Дык снедаць –
Ужо позна,
Вячэраць –
Яшчэ рана...





### Песня спета

Што хачу сказаць,
Сябры мае,
Я наконт
Наступнага сюжэта:
Муж пад дудку жончыну
Пяе?
Гэта значыць –
Песня яго спета!

### Жонка – як дзіця

Адзнакі
Шлюбнага жыцця
І напамін
Сямейнай драмы.
Бывае жонка,
Як дзіця:
Адразу ў слёзы –
І да мамы!




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

## Мініяцюры

### Калі б не ўзрост…

На што Даніла здатны ў ложку,
Хоць зараз паказаць гатоў.
Але перашкаджаюць трошкі
Пражытых семдзесят гадоў.



### Вердыкт

Раз за бутэлькаю спіртнога
Зрабілі вывад мы такі:
Гарэлкі не бывае многа,
Бываюць толькі слабакі.



### Закон прыроды

Закон прыроды — вось які,
На кожным можа ён адбіцца:
Калі вакол цябе ваўкі,
Авечкай лепш не станавіцца.

**Анатоль ПАЛЫНСКІ,**
*г. Беразіно.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.




Пра сацыяльныя сеткі ведаюць усе. Ёсць і «ВКонтакте», і «Facebook», і «Одноклассники», і іншыя. Але я натрапіла на зусім новую з іх. Называецца яна «У пад'ездзе». З яе дапамогай можна кантактаваць з любым жыхаром ці госцем, які наведвае ваш дом.

А чаму не? Калі чымсьці незадаволены, то пішы пра тое, што табе не падабаецца ў паводзінах жыхароў свайго пад'езда. Яны ж — у сваю чаргу — будуць адказваць... Так можна ўрэшце прыйсці да нейкага вырашэння праблемнай сітуацыі. Як, напрыклад, у гэтым выпадку.



Уважаемые мамочки 123-его дома!
Убедительная просьба укладывать своих деток спать до 23-00. Дабы Ваши детки, выспавшись с 13-00 до 16-00, не бегали после 23-00, топая словно маленькие слоники и не мешали засыпать рано просыпающимся (в отличии от Вас) людям.
Остальные жильцы 123-его дома по ул. 40-лет Победы

Уважаемые жильцы нашего дома,
убедительно просим Вас соблюдать тишину
с 13.00 до 16.00.
Наши детки пытаются поспать в это время
*Будем вам очень благодарны за понимание!*
Мамочки дома 123 по улице 40 лет Победы

**Вольга ШАМЯКІНА,**
*г. Мінск.*

## Анекдоты

Жонка раніцай 8 Сакавіка будзіць мужа і пытаецца:

— Дарагі, ты памятаеш, якое сёння свята?

— Вядома. Сёння 23 лютага па старым стылі.

* * *

Аб'ява на вітрыне крамы «Футра»:

«Дарагія жанчыны, не ўздыхайце вельмі моцна — шкло пацее».

* * *

Жонка сутыкнулася з мужам у гандлёвым цэнтры ў дзень Святога Валянціна. У руках ён нёс шыкоўны букет.

— Спадзяюся, гэта для мяне?

— Цяпер так.

* * *

— Дарагі, у мяне паламалася машына.

— Моцна?

— Напалам.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.







Выдатная справа – спорт. Той, хто ім займаецца, мае добрае здароўе і моцны дух.

Юзіку падабалася глядзець па тэлевізары розныя алімпіяды і чэмпіянаты. Бывае, так накрычыцца падчас прагляду спаборніцтваў, што адчувае сябе, нібыта сам крос прабег ці штангу падняў. Колькі разоў збіраўся заняцца спортам, ды лянота перашкаджала.

Аднойчы ў горадзе вырашылі правесці спартландыю сярод працоўных калектываў. Юзік спачатку і не думаў удзельнічаць у спаборніцтвах, але калі начальнік паабяцаў за гэта добрую прэмію, згадзіўся.

Пачынаючы спартсмен паспрабаваў свае сілы ў валейболе. У першы ж дзень каманда яго прадпрыемства перамагла. Юзік быў вельмі радасны. Праўда, калі ён прыйшоў дадому, то забалела спіна. А потым радыкуліт так скруціў паясніцу, што Юзік не мог нават устаць з ложка. Некалькі дзён жонка націрала яму рознымі мазямі хворае месца, рабіла масаж, давала таблеткі і мікстуры. Толькі на наступны тыдзень «спартсмен» пачаў патроху ачуньваць.

Прыйшоў на працу і даведаўся, што не адзін ён пацярпеў падчас спартландыі: яго калега, заўзяты курыльшчык, пасля спаборніцтваў у басейне захварэў на бранхіт, а другі, заядлы выпівоха, злёг з сардэчным прыступам пасля лыжнай гонкі.

Спартыўны «дэбют» аказаўся балючым і няўдалым, таму Юзік ужо хацеў наадрэз адмовіцца ад наступнай валейбольнай сустрэчы, але грашовая прэмія была не лішняй. «Нічога страшнага, – супакоіў ён сябе. – Калі што здарыцца, дык жонка зноў падлечыць». Дастаў з антрэсоляў спартыўную форму, красоўкі і падаўся ў залу...

На гэты раз спіна балела менш.

Пасля трэцяй і чацвёртай гульні боль амаль не адчуваўся. А вось у фінальны дзень спаборніцтваў, калі каманда перамагла, Юзік ледзь не лётаў ад радасці. Ён нібы памаладзеў за гэты час. Стаў лягчэй уставаць раніцай на працу, знікла кудысьці былая стома, захацелася актыўна дзейнічаць, рабіць штосьці новае.

Калі скончылася спартландыя, Юзік пачаў плаваць у басейне, катацца на каньках і лыжах, хадзіць у трэнажорную залу...

Клікаў з сабою і жонку, але тая аднеквалася: а раптам яму зноў спіну скруціць, хто тады лячыць будзе? Юзік не пярэчыў. Ён пачуў, што хутка зноў пройдзе гарадская спартландыя, і ціха запісаў жонку ў каманду яе прадпрыемства...

*г. Лагойск.*




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

## ГАМА ДЛЯ ДВАІХ

– До-рэ-мі-фа-соль-ля-сі!
Цалаваць сябе дасі? –
Нэлі запытаў юнак.
– Бессаромны ты, аднак!
Хіба можна так, Васіль?
На спатканні папрасі...
А навошта між людзей
Балабоніць, што ўзбрыдзе?
– Дык пацалаваць дасі?
– От, назола! Упрасіў...
До-рэ-мі-фа-соль-ля-сі!

*г. Жабінка.*




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

# Анекдоты

Жыццё – як спорт: для аднаго – цяжкая атлетыка, для другога – фігурнае катанне. Няўдачлівым даводзіцца падымаць штангу, стоячы на каньках.

* * *

Спорт не для мяне. Учора, гуляючы ў шахматы, я вывіхнуў сабе запясце, калі рэзка зрабіў ход канём.

* * *

Трэнажорная зала запрашае ўсіх на бліны! У наяўнасці бліны па пяць, дзесяць, дваццаць пяць кілаграмаў.

* * *

У маладосці трэба абавязкова правільна харчавацца і займацца спортам, каб у старасці не давялося весці здаровы лад жыцця.

* * *

Іншы футбаліст не-не ды праравецца да варот саперніка, потым спыніцца – і глядзіць на іх, як на новыя.

* * *

– Дарагі, я сёння глядзела па тэлевізары футбольны матч, які ты судзіў.
– Ну і як?
– Я ўжо запісала цябе на прыём да акуліста.




Ўсе размовы ў нашай хаце
Толькі аб чэмпіянаце.
Цешча ў цёмных акулярах
Разважае ў «кулуарах»
Не пра сны ды цэлюліты,
А пра шайбы і буліты.
Жонка так крычыць на кухні,
Што, здаецца, усё глухне:
– Ну, куды яе ты гоніш?
Перадачу праваронііш!
Бі мацней, гэта ж не гольф –
Так не выйдзем у плэй-оф.
Нервы лопаюць, бы струны.
«Гол!» – скандзіруюць трыбуны.
Гэта вам не «фінціклюшкі» –
Паламалі хлопцы клюшкі.
А бабуля: «Землякі!
Шайбу кінце напрасткі!»
Сын хвалюецца: «Давай,
Шайбу ўміг перадавай!»
Вось і я бягу дахаты
Далучыцца да фанатаў.

**Мікола ГРАБЯНЁК,**
*Шаркоўшчынскі раён,*
*в. Радзюкі.*




**Адны жанчыны лічаць, што шлях да сэрца мужчыны ляжыць праз страўнік, а іншыя ўпэўнены, што праз танец жывата.**

Толькі ад кахання да сябе дзеці не нараджаюцца.

**У іншых жанчын шчасце становіцца поўным, калі яны худзеюць.**

Тое, што жонцы па душы, не заўсёды па кішэні яе мужу.

**Даслаў**
**Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,

# Знарок не прыдумаеш

«Санітарны дзень праходзіць на нашым прадпрыемстве рэгулярна – кожны другі чацвер тыдня».

«Ніна Мікалаеўна – даярка, пастаянны ўдзельнік раённых і абласных злётаў выпускнікоў. Менавіта за гэтую якасць яна карыстаецца павагай у працоўным калектыве».

«Марудна ідзе псіхалагічная перабудова па вытрымліванні культуры язды не толькі сярод вадзіцеляў, але і пешаходаў».

«Ёсць аб'ектыўныя прычыны, над якімі мы працуем па ўхіленні».

«Я не маю на ўвазе санітарную культуру, хаця і яе ў тым ліку».

«Яна імкнулася захаваць найлепшыя адносіны не толькі з суседзямі са сваёй вёскі, але і з суседзямі з іншых вёсак».

«Дзіцячы арганізм вельмі падобны на губку, якая добра паглынае вільгаць».

«Урач не мае права на памылку. Але пацыенты ўсё роўна выздараўліваюць».

«Праз страўнік механізатара ляжыць шлях да высокага ўраджаю».

«Пытанню ўтрымання дарог патрэбна надаваць пастаянную ўвагу, каб у тых, хто ездзіць па іх, складвалася добрае ўражанне».



Малюнак Міхася ДАНІЛЕНКІ.

«Справядліва лес называюць лёгкімі нашай рэспублікі. Вялікую работу ў гэтым напрамку праводзіць лясгас са сваімі структурнымі падраздзяленнямі».

«На тэрыторыі нашага лясніцтва ўзрастаюць дубы рэспубліканскага значэння».

*(З выступленняў.)*

**Сабраў Анатоль ПАЛЫНСКІ,**
*г. Беразіно.*

---

**Васіль ТКАЧОЎ**

# Прыемнага апетыту!

*Гумарэска*

Раніцай, як заўсёды, жонка прыліпла да тэлевізара: ужо колькі тыдняў запар ішоў яе любімы серыял «Мухтар». Ціханчык паспрабаваў адцягнуць жончыну ўвагу:

– Любая, што ў нас сёння на сняданак?

– Хіба ў цябе рук няма? Прыгатуй што хочаш і снедай! Не вялікі пан, – узнялася жонка. – А калі я, напрыклад, у санаторый паехала альбо, крый бог, у бальніцы аказалася, ты галадаў бы? Умёў усё, што пад руку трапіла. Не перашкаджай глядзець кіно!



На другі дзень Ціханчык крадком зазірнуў у залу, дзе стаяў тэлевізар. Адтуль залівіста забрахаў сабака.

Мужчына махнуў рукой і патупаў на кухню. «Нешта трэба з'есці, – разважаў ён. – Але што?» Адчыніў халадзільнік, уміг ацаніў сітуацыю: «Можа, яешню?..» Хоць гэта і халасцяцкі сняданак, аднак нічога не паробіш. Ціханчык нават уявіў, як бярэ яйкі, шпокае іх на патэльню, аднак потым прычыніў халадзільнік, сеў на зэдлік каля тэлефона. «А зраблю я ход канём, – ад ідэі, якая раптам прыйшла яму ў галаву, ажно засвяціўся твар. – Я ж бачу, як стара-




У вясёлай, жвавай кумкі
Не адно пра хлопцаў думкі.
Любіць хітрая кума
І паесці задарма.

* * *

Я яшчэ хлапчына-зух,
Пусці, мілка, пад кажух.
Моцна сэрца б'ецца –
Будзем разам грэцца!

* * *

Выхваляецца Тарас,
Быццам ён у ложку ас.
А вось мне такога аса
Не хапае і на раз.

* * *

Зараз хлопцаў-кавалераў
Ў ЗАГС ісці не ўгаварыць.
Іншыя у іх намеры:
Піць, гуляць, дзяўчат дурыць.

* * *

Да суседкі дзед гарнуўся,
Абяцаў багата ёй...
Калі ў ложку апынуўся –
Дык захроп, як са сваёй!

* * *

Дайце хлопца мне па густу,
Як мядок, салодкага.
Не прапойцу і распусту,
А ў залётах вёрткага.

* * *

Вы не смейцеся, дзяўчаты,
Што ў мяне зубоў няма
І што ростам малаваты –
Я ж салодкі, як хурма.

* * *

Дзе мой кум гасцюе хваткі,
Заязджае да дзяўчат –
Там з'яўляецца дзіцятка
Ў кума тварам акурат.

* * *

Я падманваць зараклася,
Болей хлопцам не хлушу.
Так аднойчы апяклася –
Зараз ляльку калышу.

Працяг на с. 16.




Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.



ецца жонка дагадзіць нявестцы. Во ўжо завіхаецца перад ёй! І смажыць, і пражыць, і на стол ставіць. А ты, маўляў, нявестачка, глядзі і вучыся. Пераймай вопыт! Вось і скажу, быццам сын з жонкай завітаюць у госці... Пагляджу потым, як яна будзе свой серыял даглядаць».

Ціханчык набраў па мабільніку нумар хатняга тэлефона. Затым зняў трубку і гучна загаварыў:

– Прывітанне, прывітанне!.. Дык, кажаце, прыйдзеце сёння?.. Зараз пайду маці скажу, няхай рыхтуецца. Чакаем!

Жонка, пачуўшы гэтыя словы, забылася пра серыял і адразу ж заспяшалася на кухню. Толькі перапытала:

– Дык што, зараз прыйдуць?

– Так, зараз. Паснедаць чамусьці вырашылі ў нас...

Як завіхалася на кухні жонка! А Ціханчык, хітравата назіраючы за ёй, выбраў момант і зноў набраў па мабільным хатні тэлефон:

– Дык што, не прыйдзеце? – нібы шкадуючы, здзівіўся Ціханчык. – Тэрмінова выклікалі на працу Сяргея? Ай-я-яй! А маці тут усяго нагатавала – пальчыкі абліжаш! І катлеткі, і адбіўныя, і салацік... Шкада, вельмі шкада. Давядзецца снедаць самім.

– Ідзі еш хоць ты... – настрой у жонкі адразу сапсаваўся. – Мне не хочацца.

– Прыемнага апетыту! – сядаючы за стол, пажадаў сам сабе Ціханчык і пачаў умінаць усё, што стаяла на ім. Еў і нахвальваў сябе за знаходлівасць і кемлівасць... Жонка, між тым, бурчэла каля тэлевізара: маўляў, столькі нагатавала, а дзяцей няма. Дарэмна толькі старалася.

Не, не дарэмна – спытайцеся ў Ціханчыка, ён вам скажа, што даўно так смачна не снедаў.

*г. Гомель.*

*Заканчэнне. Пачатак на с. 15.*

* * *

Скокі, скокі ды падскокі.
Дзе ж той хлопец яснавокі,
Што, як козлічак, скакаў,
Ажаніцца абяцаў?



* * *

Пайду з горачка тапіцца,
Мяне мілы падмануў.
Дайце зручна прымасціцца,
Каб хто з моста не спіхнуў!

* * *



Не мужчына, а адпад:
Нос, што ў бусла акурат.
Вось такога бы сабе,
Ды баюся — задзяўбе!

* * *

Ем я бульбу ды капусту,
Апетыту не стрымаць.
Дайце хлопца мне па густу,
Каб быў майстар абдымаць!

* * *

Той, хто польку тупаціць,
Нібы зорка, зіхаціць.
Хто прыпевачкі пяе,
Той старэць перастае.



**Праспявала**
**Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*

Усяго патрох!




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.




Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

Усяго патрох!

---




Калі жанчына сочыць за фігурай, то з яе не спускаюць вачэй мужчыны.

Дзеля асалоды жыцця можна праглынуць не адну горкую пілюлю.

Часта на глебе малой рэўнасці вырастае вялікі развод.

Звычайна той, хто набівае сабе цану, не карыстаецца попытам.

Як цудоўна адчуваць асалоду жыцця, не спазнаўшы цукровага дыябету!

**Даслаў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Валянціны ГАРБАЧУК.

# Дарогу маладым!

Малюе Карына ПАЦКО










Тэмы Валянціны КАСЯК.

## Вясёлы слоўнік

Абабак — мужчына, непастаянны ў сардэчных прыхільнасцях.

Вінаваціцца — піць віно.

Гадаванне — размова нягоднікаў.

Жэрдка — дзяўчына, якая шмат есць.

Забараніць — зайсці ў бар.

Наўскасяк — чалавек, які заўжды ўсё псуе.

Ратаваць — шмат гаварыць.

Фасоля — музыкант.

Шалахвост — шалёны сабака.

**Карына ПАЦКО,**
*г. Жодзіна.*

---

**Міхась МІРАНОВІЧ**

## Міранізмы

### Каб была чужою...

– Ты – гаспадыня
І разумніца, Алёнка,
Прытым – прыгожая,
Зазначу без маны.
Каб ты яшчэ
Была чужою жонкай –
Табе зусім бы
Не было цаны!

### Крэда халасцяка



– Чаму не жэнішся,
Фядот?
У адзіноце
Жыць тужліва!
– Ты ж не купляеш
Піўзавод,
Як хочаш выпіць
Кухаль піва...

### Хто дурнейшы?

Разбяромся давай
Без пачыну:
Між жанчын
Ты сустрэнеш нямногіх,
Што пайшлі б
За дурнога мужчыну,
У якога
Прыгожыя ногі...

*г. Віцебск.*



Малюнак Міколы ЧАРКАСАВА.




РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» прапануе




**Галіна ПШОНІК**

**«Чарадзейны калейдаскоп»**

*Героі кнігі трапляюць у незвычайныя, часам рызыкоўныя, адным словам, казачныя сітуацыі. І разумеюць, што трэба быць праўдзівымі, працавітымі, спагадлівымі да людзей, як і вучаць іх бацькі і блізкія.*

*У зборнік увайшлі казкі «Неспадзяваная вандроўка», «Пракрыўджаныя фарбы», «Чарадзейны калейдаскоп», «Змяя Маня», «Снягоўна» і «Зося і Балотнік», цудоўна аформленыя мастачкай Святланай Рыжыкавай. Адрасуецца дзецям малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту.*

***P. S.*** *Кнігу можна набыць у аддзеле рэалізацыі альбо атрымаць па пошце. Тэлефоны для даведак: 8(017) 288-12-94, 284-79-85.*

**Галіна ПШОНІК**

# Дзядулева крэсла

*(З казкі «Неспадзяваная вандроўка»)*

Ну, так. Ну, папярэджваў дзядуля, каб не раскачваўся ў крэсле за яго пісьмовым сталом. Ну, шмат разоў папярэджваў. Але ж ніколі нічога такога не здаралася. А зараз здарылася. Змітрок трошкі пацёр выцятае месца, падняў перакуленае крэсла і адламаную ножку, якая адляцела далёка ўбок. «Вось дзядуля разззлуецца!» – з сумам падумаў Змітрок і пачаў меркаваць, што рабіць.

Рашэнне выспела неяк само сабой. Змітрок акуратненька прыладзіў адламаную ножку да параненага крэсла і хуценька падаўся прэч з дзядулевага кабінета. Ён ужо амаль дайшоў да дзвярэй, як штосьці прама з кніжнай паліцы звалілася яму пад ногі. Змітрок спалохана адскочыў назад і ўбачыў на падлозе незнаёмага хлапчука. На ім былі ярка-ружовая куртачка і такога ж самага колеру красоўкі. Такое дзіўнае ўбранне зусім не дастасоўвалася да чорных, што не бачна і зрэнак, вачэй нечаканага госця.

– Віншую! У нашай арміі прыбаўленне! – урачыста звярнуўся хлопец да Змітрака.

– У якой арміі? – асцярожна пацікавіўся Змітрок.

– У арміі разважлівых ашуканцаў – тых, хто хлусіць не дзеля пустога жарту, не дзеля бязглуздай забавы, а дзеля ўласнай карысці, – ахвотна растлумачыў хлапчук.

– Я проста хацеў... – збянтэжана пачаў Змітрок.

– ...каб не дасталося ад дзядулі на арэхі, – кемліва падхапіў чалавечак.

– Ну, не тое, каб...




Толькі напярэдадні 23 лютага можна ўбачыць у метро радасную дзяўчыну са спінінгам і дрылём.

* * *

Сын пытаецца ў бацькі-паляўнічага:

– Тата, чым адрозніваецца звычайнае аднаствольнае ружжо ад ружжа-аўтамата?

– О, сынок, гэта істотнае адрозненне. Узгадай, як размаўляю я, і як – твая маці.




Малюнак Аляксандра ШМІДТА.

* * *

Пасля святаў мы з жонкай фарсілі ў падарунках, зробленых адзін аднаму на 23 лютага і 8 Сакавіка: яна ўся такая ў норкавым футры, а я ўвесь такі ў новых шкарпэтках, трусах і з парасонам.

* * *

Хлопец з дзяўчынай, абняўшыся, сядзяць на канапе.

– Пра што ты думаеш? – пытае ён.

– Пра тое ж, што і ты!

– Цудоўна! Тады зрабі і мне адзін, толькі з вяндлінай!

– Тое, тое, – зноў упэўнена перабіў нечаканы візіцёр. – Давай лепш знаёміцца. Я Хлуска.

– А я Змітрок.

– Ведаю, ведаю. І хачу запрасіць цябе ў выдатны горад Хлуск.

– Гэта далёка? Мама, напэўна, не адпусціць, – засумняваўся было Змітрок.

– Гэта зусім недалёка, а маме скажаш, што пайшоў да Сцёпкі, каб растлумачыў табе матэматыку, – як быццам загадзя ўсё спланаваўшы, параіў Хлуска.

Варта было б адцягнуць сустрэчу з дзядулем, таму Змітрок вырашыў скарыстаць запрашэнне і параду новага знаёмага.

Ісці, сапраўды, трэба было нядоўга. Завярнуўшы за дом, Хлуска падышоў да адной з чыгунных накрывак шматлікіх люкаў. Яна дзівосным чынам прыўзнялася, і Змітрок убачыў нахілены жолаб накшталт горкі на дзіцячай пляцоўцы.

– Паехалі! – Хлуска першы ўсеўся на горку і ўхапіўся за борцікі абедзвюма рукамі.

Змітрок, не марудзячы, прыладзіўся ззаду. Хлуска адпусціў рукі, і падарожнікі імкліва панесліся ўніз.

Праз колькі хвілін цёмны тунэль скончыўся, і яны апынуліся на вялізнай плошчы, застаўленай спрэс высокімі, аж да аблокаў, дзіцячымі горкамі.



– Прыбылі! – урачыста паведаміў Хлуска, пераступаючы з нагі на нагу пасля ўдалага прызямлення, і важна дадаў: – Гэта галоўная плошча нашага горада...




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Валянціны ГАРБАЧУК.

# Кашэчае каханне



Прыйшла з работы я сягоння,
Сяджу адна, адпачываю.
Гляджу – ля плота коцік Боня
Да Муркі падыход шукае.

То лапкай шэрстку ёй пагладзіць,
То вушка лёгка пакусае.
Але не хоча Мурка ладзіць,
На Боню кіпці выпускае.

Прыйшоў каток дамоў падраны,
Галодны, сумны і маўклівы.
Прамыла хутка яму раны,
Смятанкай свежай накарміла.

Мой Боня – ветлівы, культурны,
На Мурку лапу не падыме.
Няхай шыпіць – а ён прытуліць,
Стрывае выбрыкі любыя.

Мужчынам нашым, скажам шчыра,
У Боні трэба павучыцца
Любіць і паважаць жанчыну,
А не злавацца і сварыцца.



**Валянціна БАБКО-АЛЯШКЕВІЧ,**
*Салігорскі раён,*
*в. Радкава.*







Свежына сягоння ў Толі,
Жонка справіла застолле.
Трэба свінку замачыць,
Ад работы адпачыць.

Сталі ў рад бутэлькі, чаркі,
Мяса смажанае, скваркі
Пахнуць — аж казыча нос.
Толя агуркоў прынёс.

За сталом — суседка Лёля,
Брат Алёша, сваццяя Воля.
Пад сталом — дварняк Мухтар,
Котка Мурка, кот Макар.

Ганна бульбы наварыла
І пячонку патушыла.
Па «дабаўку» муж ідзе,
А бяседа ўсё гудзе...

Госці ўрэшце разышліся,
Дома ж справы засталіся:
Соль з прыправамі купіць,
Паляндвіцу засаліць.

Ганна рушыла да крамы,
Гаспадар зваліўся п'яны —
Без нагляду двор і хата...
Для жывёл настала свята.

Рве Мухтар з лапаткі мяса,
Мурка выбрала каўбасы,
А Макар, хітрушчы кот,
Спёр вантробы, жываглот.

Як пад'еў — пачаў мурлыкаць,
Сябрукоў хвастатых клікаць.
Вось і Рыжык, а за ім
Прыляцеў суседскі Бім.

Затрашчалі мігам косці,
Зніклі вушкі, ножкі, хвосцік.
Бім сцягняк у зубы ўзяў
Ды на градках закапаў.

...Ганна ў роспачы галосіць,
Косці муж на сметнік носіць.
Вось і ўсё. Свінні няма.
Праца згінула дарма.

**Галіна НУПРЭЙЧЫК,**
*г. Клецк.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма Валянціны КАСЯК.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.

---




**У жанчын асаблівы склад розуму. Чаго толькі там няма!..**

Калі паміж мужам і жонкай прабегла кошка, чакай сабачага жыцця.

**Ад адзіноты ўдваіх не выратоўвае трэці.**

Першае каханне бывае і да апошняга дыхання.

**Каханне жанчыны так моцна акрыляе асобных мужчын, што яны нават адлятаюць ад сямейнага гнязда.**

**Даслаў**
**Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*




Малюнак Ганны КІСЛУШЧАНКІ.

**Фёдар ЛАПАНІК**

# «Пляшпарт» цёткі Антоніхі

Жыццёвае





Субота выдалася для цёткі Антоніхі клапатлівай. Доўга валаводзілася з купленымі ўчора на гарадскім рынку люстранымі карпамі, пакуль не пачысціла. Калі ж нарэшце паклала іх на патэльню, высветлілася, што падсмажыць рыбу няма на чым. Сумкі пад рукою не было. Схапіўшы на хаду са стала газету, Антоніха пабегла ў краму. Купіла бутэльку алею і, абгарнуўшы газетай, увапхнула ва ўнутраную кішэню курткі.

На падворку нырнула пад павець, каб набраць дроў, а там – толькі пара паленцаў. Хацела раскалоць бярозавую калоду, але не здужала, адно стамілася ды ўзмакрэла.

Давялося бегчы на будаўнічую пляцоўку (у райцэнтры якраз узводзілі новы Дом культуры). Толькі падняла сухую кароценькую дошчачку, як з вагончыка, над якім курыўся дымок, выскачыў шустры вартаўнік у аўчыннай камізэльцы.

– Пакладзі на месца, – рашучым голасам скамандаваў ён.

– Гэта ж нікому не патрэбны апалак, – усё яшчэ трымаючы ў руках дошчачку, апраўдвалася Антоніха.

– Сказана нельга – значыць, нельга.

Вартаўнік нетаропка падышоў да жанчыны. Утаропіўся на выпукласць з левага боку курткі.

– Ці не «пляшпарт» там у цябе тапырыцца?

Цётка Антоніха адразу скеміла, што мае на ўвазе вартаўнік, і тут жа бойка адказала:

– Угадаў. Акурат з крамы іду.

– Ну, дык прад'яўляй свой дакумент.

Кабета расшпіліла куртку, дастала абгорнутую газетай бутэльку і аддала яе вартаўніку. Той борздзенька схапіў пакунак. У ягоных вачах бліснуў агеньчык задавальнення. Праз некалькі хвілін ён прынёс Антонісе вялікае пустое вядро і павёў пад навес, дзе ў скрынках ляжаў паркет.

– Загружайся. Дубовыя дошчачкі. Гэта не апалак, які ты схапіла. Ад іх доўга будзе цёпла ў хаце... Ёсць у мяне, дарэчы, яшчэ блакітная кафляная плітка. Ад фарфору не адрозніш. Маюцца струганыя дошкі, цэгла, цвікі. Не кажучы пра цэмент і шыфер. Прыходзь, у гаспадарцы спатрэбіцца. Толькі абавязкова прынось з сабой «пляшпарт», як цяпер. Без гэтага дакумента размовы не будзе. Дамовіліся?

– Вядома, вядома, – пагадзілася цётка Антоніха і падалася дахаты.

У той дзень яна ўпершыню ў сваім жыцці смажыла карпаў на маргарыне, бо ісці яшчэ раз у магазін не адважылася. А што, калі выпадкова спаткае таго мужчыну? Не было больш ходу і на будоўлю. Зусім не на такі «пляшпарт» разлічваў вартаўнік у аўчыннай камізэльцы...

*г. Ляхавічы.*

---

**Вацлаў ХАДАСЕВІЧ**

# Марныя патугі мужа-валацугі



Нібы воўк за авечкаю, рваўся
Цэлы год за даўжэйшым рублём.
Дашабашыўся так, што застаўся
Ён без жонкі, з таўстым мазалём.

Не бясхлеб'е вяло яго ў пошук,
А цікавасць, што будзе рабіць,
Як дамоў прывязе мяшок грошай:
Можа, больш стане жонка любіць?

Падыходзіць да хаты: ні гуку.
Нават певень з сабакам маўчаць.
Вось, здаецца, працягнуцца, рукі,
Каб яго – валацугу – абняць.

«Падалася упрочкі Марыся, –
Навіну сусед Рома прынёс. –
Чуў на вёсцы, кудысь пад Барысаў
Малады лейтэнант яе звёз...»

*г. Мінск.*



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




# Херлуф БІДСТРУП (1912—1988)



Сусветна вядомы мастак-карыкатурыст, грамадскі дзеяч. На яго рахунку звыш пяці тысяч малюнкаў.

Нарадзіўся ў Берліне (Германія). Неўзабаве пасля пачатку Першай сусветнай вайны сям'я Бідструпаў вяртаецца ў Данію, дзе хлопчык пад кіраўніцтвам бацькі, мастака-дэкаратара, пачынае займацца маляваннем. Пасля заканчэння школы Херлуф паступае ў Каралеўскую акадэмію мастацтваў, каб вучыцца жывапісу. Але вядомасць і прызнанне ён заваяваў пазней сваімі надзвычай адметнымі, трапнымі карыкатурамі. Рэцэнзенты, не змаўляючыся, адзначылі гумар на іх як «тыпова дацкі».

Малюнкі Бідструпа дзяліліся на бытавыя гумарыстычныя замалёўкі і серыі сатырычных палітычных карыкатур. Паводе яго слоў, ён распачынаў стварэнне выявы толькі пасля падрыхтоўкі тэксту, падбіраючы матэрыял да карыкатур падчас чытання газет і з паўсядзённага жыцця.

**Плады аўтаматызацыі**



Сюжэтам для гумарыстычных работ былі адносіны паміж бацькамі і дзецьмі, падначаленымі і начальнікамі, закаханымі, суседзямі; аб'ектамі сатыры – славалюбства, фанабэрлівасць, ганарыстасць, пыхлівасць, няўдзячнасць, цікаўнасць.

Серыі бытавых карыкатур звычайна складаліся з некалькіх сцэнак невялікага маштабу, што размяшчаліся на адным лісце і «чыталіся» злева направа і зверху ўніз, як тэкст на

---




### Сямейны падарунак

– Дарагая, давай у выхадныя дні зробім адзін аднаму падарунак.

– Згодна, любы!

– Тады ты паедзеш да сваіх бацькоў, а я – да сваіх.



### Не тыя зоркі

Хлопец позна вечарам пільна ўзіраецца ў неба і ўздыхае:

– Як хочацца каханай дзяўчыне зорку дастаць! Толькі вартай не бачу.

### Кожнаму сваё

Жонка:

– Як прыйдзе мая маці, во нагаваруся!

Муж:

– А прыйдзе мой цесць, во нажлукцімся...



### Сватаўства

– Еўдакія, кажуць, да цябе Мікола сватацца прыходзіў?

– Ат, якое там сватаўства! – адмахваецца тая. – Пераначавалі – ды разышліся.

### Што горш?

Ніна дакарае мужа:

– Ну, і бабнік ты! На кожную спадніцу вочы лупіш.

– Горш было б, каб на штаны вытрэшчваў, – не здаецца той.

### Мана

– Якаў, чуў, ад цябе трэцяя жонка збегла?

– Мана, гэта я ад яе збег.

**Даслаў Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*

Сімпатыя



У выйгрышы



друкаванай машынцы. Па сутнасці, мастак ствараў коміксы. Малюнкі вельмі дынамічныя і ў паслядоўных эпізодах, як кадры кінафільма, даюць магчымасць прасачыць за развіццём падзей і станам удзельнікаў маленькіх драм і трагікамедый.

Бідструп ствараў у сваіх серыях выразныя, лёгка пазнавальныя чалавечыя тыпы і характэрныя сітуацыі, забаўныя і парадаксальныя ці тыя, што мелі больш шырокае грамадскае значэнне. Сюжэтам палітычных карыкатур станавіліся канкрэтныя здарэнні.

Кожны, хто ўважліва разгледзіць гэтыя малюнкі, убачыць, што за гумарам у іх вельмі часта хаваецца глыбокі падтэкст.









Нарэшце выдыхнуў з палёгкай
(Ну хто ж чакаў такой бяды?),
Да доктара з падбітым вокам
Звярнуўся хлопец малады.
– Даруйце, доктар. Велізарны
Сіняк... Балючы, хоць крычы.
Ці можаце вы неадкладна
Як-небудзь мне дапамагчы?
– Дзяўчыну ратаваў ты з боем
Ці, можа, сябра падмануў?
– Ды не, ні тое, ні другое.
У шафе седзячы... чыхнуў.

**Аляксандр КАЗЯЛКОЎ,**
*г. Маладзечна.*

**Міхал ШУЛЬГА**




Расказваю гэтую гісторыю са слоў добрай знаёмай.

Знянацку зазваніў тэлефон. Я зняла трубку.

– Алё! Ніна, ты? – спытаў мужчынскі бас.

– Так, я Ніна.

– Добры дзень, Нінок! Рады чуць твой галасок! Але нейкі ён сумны, невясёлы. Хіба ты мяне ўжо не кахаеш? А можа, другога маеш?.. Ці ты не Ніна?!

– Ніна.

– Палявая?

– Ды не, Лугавая! – смяюся ў адказ. – Відаць, нумарам памыліліся.

– Ай-яй-яй! Які ж мяне вецер на чужое поле занёс? – завойкаў бас. – Мне мая, Палявая Ніна трэба!.. Выбачайце...

*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СЛІВЫ.

## Старое на новы лад

Хто з моладу не працуе, той на пенсіі не шыкуе.

Універсітэт дакучыць, ды розуму навучыць.

Ладзь кандыцыянер зімою, а абагравальнік — летам.

Не вучы старога ката «Віскас» есці.

Хто пешшу гуляе, той на машыну грошы збірае.

На галодны зуб і чыпсы — бульба.

Няма лепшага шчасця на свеце, як дома сядзець у інтэрнэце.

Ад абкрадзенага ўцякаўшы, на міліцыянера наскочыў.

Багата жыві, а за крэдыт у час плаці.

Вучыся, нябожа, дзяржава паможа.

**Перайначыла Ганна КІСЛУШЧАНКА,**
*г. Мінск.*


**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**

**«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс**

№ 2 (1517), 2015 год.

*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
*Часопіс «Вожык» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэгістрацыйны № 520.*

Заснавальнікі – Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

**Галоўны рэдактар**
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.

**Рэдакцыйная калегія:** Анатоль АКУШЭВІЧ, Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Тамара ДАНІЛЮК, Валянціна ДУБРОВА, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Уладзімір МАТУСЕВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ.

**Рэдакцыя:** Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел),* Ганна КІСЛУШЧАНКА, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў),* Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

*Рэдактар стылістычны* Марыя ПЛЕВІЧ.
*Камп'ютарная вёрстка* Святлана ТАРГОНСКАЯ.



**Юрыдычны адрас:**
**220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.**

**Адрас рэдакцыі: 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39. E-mail: a-vojik@yandex.ru**

***Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 284-84-52, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.***



Рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Перадрукоўваючы матэрыял, трэба абавязкова спасылацца на «Вожык». Разглядаюцца рукапісы, надрукаваныя на машынцы або набраныя на камп'ютары. Аўтары публікацый нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пазіцыю і думку аўтараў.

Падпісана да друку 05.02.2015. Фармат 60x84 $^{1}/_{8}$.
Афсетны друк. Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,43. Тыраж 1498 экз. Заказ .

Кошт нумара ў розніцу 16 800 руб.

Надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «БудМедыяПраект». 220123, Мінск, вул. В. Харужай, 13/61.
ЛП №02330/71 ад 23.01.2014.






Малюнак Алега ПАПОВА.

## Анекдоты

Жонка, якая з'ездзіла на рыбалку з мужам, распавядае сяброўцы:

— Разумееш, я ўсё рабіла не так, як трэба. Гаварыла вельмі гучна, узяла не тую прынаду, закідвала вуду не туды, клявала ў мяне няправільна, падсякала не так і наогул злавіла больш рыбы, чым ён!

* * *

Жанчына — поўная супрацьлегласць сабаку. Сабака ўсё разумее, але нічога сказаць не можа.

* * *

Размаўляюць бацька з сынам:

— Тата, хутка тваё свята — 23 лютага.

— Лепшым падарункам для мяне будуць твае добрыя адзнакі, сынок.

— Позна. Я ўжо купіў табе гальштук.

* * *

— Люся, па-мойму, нашыя адносіны перайшлі ўжо тую мяжу, калі я як чэсны і прыстойны чалавек павінен пазнаёміцца з тваёй сям'ёй.

— Сёма, але мой муж не хоча з табой знаёміцца!

* * *

8 Сакавіка. Кожная жанчына ў гэты дзень хоча, каб васьмёрка ператварылася ў бясконцасць.

# Тата, мама, я — спартыўная сям’я

Малюнкі Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.


– Мой сын раней быў кідальнікам молата...
















Малюнак Алега ПАПОВА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.

## Падпішыся на «Вожык»!

«Вожык» — лепшы ў хаце госць:
Многа гумару ў ім ёсць.

Выпісваю «Вожык» на ўдачу,
Чытаю на працы, на дачы,
Ў метро, у тралейбусе, ў хаце...
І ты далучайся, мой браце!

Як «Вожык» нас павесяліць —
Ніводны орган не баліць!

Нас «Вожык» радуе карыкатурамі,
Каб не хадзілі кіслымі, панурымі.

Да твару «Вожыку» іголкі,
Ён дорыць гумар востры, колкі.

У спёку, дажджы ці зімовай парой —
«Вожык» заўсёды палепшыць настрой!

**Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*




Фельетон Андрэя СІДАРЭЙКІ «Стрэлы Амура і сабакі на камбайне», прысвечаны сучасным айчынным песням.

У рубрыцы «Сатырычнае рэтра» — «Пісьмо лайдака Глазкова Петрака дзядулю...» (амаль па Чэхаву).

Верш Ганада ЧАРКАЗЯНА «Пра ката», якога выбрала сабе ў мэры Аляска, ды пра нашых катоў.

Журналісцкія былі Міхася СЛІВЫ пра «балючы» ганарар, падпалкоўніка, які за пяць хвілін зрабіўся палкоўнікам, карову Кветку з рэкордным надоем 323 кілаграмы малака ў дзень і многае іншае...

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844**,

**індывідуальны льготны** (для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**

**ведамасны льготны** (для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381.**




**ПАДПІСКА НА І ПАЎГОДДЗЕ 2015 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**

індэкс 74844, цана 29100 рублёў,
індэкс 01380, цана 23200 рублёў
індэкс 748442, цана 79000 рублёў,
індэкс 01381, цана 62300 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**

